Цана асобнага нумару 300.000 м.

# Сын Беларуса



Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.600000 м.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 7. Вільня, Чацьвер, 26-га чэрвеня 1924 г. Год I.

## Для нас зямлі няма!

Генарал Сікорскі, найшчырэйшы прыяцель і аднадумец пана маршалка Пілсудскага, ды поўафіцыяльны прадстаўнік польскага дэмакратызму, у бытнасьць сваю галавой польскага ўраду „уславіўся“ тым, што, абяцаўшы з соймавае трыбуны беларусам і украінцам здаволіць іх слушныя дамаганьні і гэтай цаной купіўшы галасы беларускіх і украінскіх паслоў, пасьля нават і не падумаў выпаўніць сваё абяцаньне, пасьмяяўшыся толькі над даверчывымі прадстаўнікамі беларускага і украінскага насяленьня Польскага гаспадарства.

Есьць дужа ўдачная расейская народная прыказка: „ложью весь свет пройдешь, да назад не воротишь“. I цяпер, калі ген. Сікорскі ізноў вярнуўся да ўлады, як ваенны міністар у габінэце п. Грабскага, — ён ужо і не прабуе пяяць старую песьню аб сваей „прыхільнасьці“ або „справядлівасьці“ адносна да беларускага і украінскага народаў. I слушна: другі раз ані беларусы, ані украінцы не пападуцца на мякіну „салодкіх слоў“! Дык ген. Сікорскі скінуў непатрэбную ўжо яму пры цяперашніх варунках маску і ў апошняй сваей вялікай прамове ў Сойме, кажучы аб вайсковым асадніцтве, выявіў цалком сваё палітычнае аблічча.

Агульная думка ген. Сікорскага, якую ён высказаў, бароначы слушнасьць насыланьня да нас асаднікаў-палякоў, зводзіцца да таго, што *беларусам нельга і спадзявацца на зямлю ў Польскай Рэспубліцы. Дворная зямля ў Заходняй Беларусі*, якая павінна-б была быць падзелена між працоўным народам, па думцы ген. Сікорскага—*не беларуская*, (бо-ж абшарнікаў-беларусаў у нас няма!), а належыць да абшарнікаў польскае і маскоўскае нацыянальнасьці, дык *толькі палякі і могуць мець права на яе*!

Коратка кажучы: *беларускі селянін*, які ад вякоў потам сваім паліваў суседнія з вёскай ягонай панскія гоні, *ня мае права на гэтую самую зямлю, бо на ёй засеў абшарнік-паляк*, хаця па паходжаньню свайму той абшарнік—пераважна беларус, толькі адрокшыся ад свайго народу.

Гэтае дзікое становішча прадстаўніка сучаснага польскага ўраду, як паказуюць факты, падзяляецца ўсімі сябрамі ўраду п. Грабскага і, што горш, выяўляецца ня толькі на славах, алі і на дзеле. Як сказаў ген. Сікорскі ў памянутай прамове сваей у Сойме, з агульнае лічбы 6,704 надзеленых на Беларускіх і Украінскіх землях вайсковых асаднікаў тутэйшых жаўнераў усяго толькі 1,459, а навезеных з глыбіні Польшчы—5,245.

Заява ген. Сікорскага, якая адбірае ў беззямельнікаў і малазямельнікаў беларусаў нават надзею на тое, што іх слушнае дамаганьне зямлі будзе здаволена, не зьяўляецца, аднак, нечым новым і неспадзяваным. Яна толькі стаўляе кропку над *і* да нашумеўшае заявы п. Прэзыдэнта Войцеховскага, што толькі палякі зьяўляюцца „прыражонымі гаспадарамі“ ў межах Польскае Рэспублікі.

Але заява ген. Сікорскага зьяўляецца запраўды гістарычнай, бо паказуе з поўнай ачывістасьцяй, што уціск „нацыянальных меншасьцяў“ у Польшчы—гэта вынік не аднаго толькі самавольства крэсовае адміністрацыі, як гэта крывадушна заяўлялі англійскай дэмакратыі паслы Недзялковскі (з П. П. С.) і Тугут (з Вызволеня), а вынік акуратна, ува ўсіх падробнасьцях прадуманае *дзяржаўнае сыстэмы*, рэзка супярэчнае, як з польскай канстытуцыяй, так і з міжнароднымі трактатамі аб правох „меншасьцяў“ Польшчы.

У гісторыі Расейскага гаспадарства, з якой на працягу палутараста гадоў была зьвязана і наша ўласная гісторыя, быў мамэнт, які вельмі напамінае сучаснае палажэньне ў Польшчы.— 17 кастрычніка 1905 году рэвалюцыйны рух працоўных масаў усіх нацыянальнасьцяў Расейскае Імпэрыі вырваў быў у цара Мікалая Апошняга маніфэст, у якім абвяшчаліся народу ўсе палітычныя і грамадзкія свабоды. Але ажно да Рэвалюцыі 1917 году расейская ўлада і ня думала аб тым, што гэны маніфэст можа каго-колечы абязываць,—перадусім яе, уладу. I сьледам за маніфэстам пасыпаліся на народ дзікія рэпрэсіі, масавыя арышты і расстрэлы, — запанавала страшэнная палітычная рэакцыя, давёўшая ўканцы да новага рэвалюцыйнага выбуху ў 1917 годзе,—выбуху нязвычайна крывавага і да самых асноў разьвярнуўшага стары лад.—Вось, нешта дужа падобнае дзеецца ў сучаснай Польшчы. I *за зямлю*, „прынцыпова“ (на паперы!) аддаваную народу, і за *выпаўненьне абвешчанае канстытуцыі і падпісаных Польшчай міжнародных трактатаў*, і за *зьдзейсьненьне* прызнанага ўсенькім сьветам і самай-жа Польшчай *права паняволеных народаў на самавызначэньне* тутака прыходзіцца йшчэ *вясьці ўпорлівую, цяжкую барацьбу*. Але вынік гэтае барацьбы можа быць толькі адзін: на гэта паказуе ход выпадкаў у Расеі за апошнія гады...

## Прамова пасла Ф. Ярэміча

*на засяданьні Сойму 18. VI. 1924. у справе бюджэту Міністэрства Унутраных Спраў.*

Высокая Палата! Міністэрства Унутраных Спраў—гэта тая крэпасьць, куды паветра звонку не даходзе, дзе засядаюць сабе на мяккіх дырэктарскіх крэслах людзі з старой, пеpажытай псыхікай. Мы зьяўляемся сьведкамі жыцьцёвых выпадкаў, якія апераджаюць некаторыя ўставы, выданыя Соймам: жыцьцё йдзе ўперад! Аднак, усё гэта не абходзе гэных паноў, астаўшыхся дагэтуль вернымі традыцыям аўстрыйскае бюракратыі. У адносінах да нас, беларусаў, і да ўкраінцаў лінія паступаньня вызначана яшчэ ў 1920 годзе, пасьля падзелу Беларусі і зацьверджаньня Рыжскага Трактату. Гэтая лінія выражаецца ў некалькіх славах, а іменна: тую частку Беларусі, якую далучылі да Рэчыпаспалітай, трэба праглынуць, а ўсё, што тут ёсьць беларускага, што сьвята для гэтага народу беларускага, — гэта зьніштожыць і спольшчыць, ня гледзячы на тое, што па сягоньняшні дзень вельмі многа палітыкаў і сярод польскага грамадзянства кажуць, што Польшча ня здолее праглынуць гэтыя землі, і трэба лічыцца з іх насяленьнем. Аднак, гэта зусім не абходзе Міністэрства Унутраных Спраў. Цяпер, прашу Паноў, справа нацыянальных меншасьцяў з таквзваных Усходніх Крэсаў выходзе па-за межы Польскага Гаспадарства, выходзе на міжынароднае форум. Я ня вельмі спадзяюся, каб нехта прыйшоў і даў нам ды забясьпечыў магчымасьць свабоднага культурнага, сацыяльнага і палітычнага разьвіцьця,—але мы прыйшлі да аднаго пераканаьня: мы прасілі, а цяпер ужо

**прасіць ня будзем, а будзем браць!**

Пераходзячы да спраў адміністрацыі, я павінен адзначыць, што **ўсе беларускія газэты зачыняюцца**, і то так, што Камісар Ураду, ці места Вільні, калі яму не спадабаецца адно слова, адно выражэньне ў газэце, зачыняе яе, ці эвэнтуальна канфіскуе і аддае справу ў суд. Суд апраўдывае, але гэта зьяўляецца для нас цяжарам, бо ня маем сваей прэсы, бо ўвесь час церпім зьдзекі. За гэты час зачынены шэсьць беларускіх газэт, сканфіскаваны нешта каля 60 нумароў. Ні ў воднай эўрапэйскай дзяржаве гэтага ня бывае.

Тое-ж бачым і ў адносінах да школ. Не кажу аб школах наагул, бо гэта належыць да Міністэрства Асьветы,—аднак, Міністэрства Унутраных Спраў іграе тут вялікую ролю, бо **ўсе вучыцялі**, якія зьяўляюцца інтэлігенцыяй нашага народу, творчым мозгам гэтага народу, **церпяць зьдзекі і прымушаюцца ўцякаць** з свайго краю, пакідаць свае родныя хаты, каб трапіць недзе на чужыну.

Нашы таварыствы ня могуць дачакацца, каб іх легалізавалі. Нядаўна **беларускія ксяндзы** падалі на легалізацыю статут Таварыства Ксяндзоў-Беларусаў пад назовам „Сьветач“. I ім з усім цынізмам адказалі: „**мы не зацьвярджаем**, і гэта ёсьць астаточная пастанова, ды навет ня маеце права падаваць да міністэрства“.

Прашу Паноў, я пераходжу да **абывательства**. Калі беларус хоча выбраць „dowód osobisty“, дык ён пападае ў блуднае кола. Яму трэ' йсьці да войта, ад войта да старасты, ад старасты да ваяводы, ад ваяводы да рэфэрэнта, ўрэшце да міністэрства, а пасьля міністэрства аддае яшчэ на праверку, пад паліцэйскі нагляд, ды гэтак у канцы канцоў праходзіць і два гады, і ніяк гэты абывацэль **ня можа дастаць пашпарту**. Калі меў службу, дык яе страціў, бо не прадставіў гэнае бумажкі; калі гэта селянін, якому службы ня трэба, дык яшчэ папаў на зьдзекі паліцыі і, прашу Паноў, ніяк ня можа за 2—3 гады дастаць сваё „абывацэльства“.

Пераходжу да **паліцыі**. Тут, у гэтай Высокай Палаце, з гэтай Высокай Трыбуны мы раз чулі — ў адказ на адну з нашых сьпешных прапазіцыяў—завярэньні міністра ўнутраных спраў Солтана, што ён даў загад, што будзе рашуча і з усей сьвядомасьцяй караць за ўсе надужыцьці і ня будзе цярпець тых **катаваньняў**, якія былі пералічаны ў нашай сьпешнай прапазіцыі. Аднак, што-ж мы бачым? Вось факты, паўтараўшыяся яшчэ пасьля завярэньня п. міністра, і іх я пазволю сабе тут прывесьці.

У месяцы марцу 1923 году быў арыштаваны Трахім Русецкі, селянін з в. Залесьсе, Жыровіцкае гміны, Слонімскага пав., і прыведзены на пастарунак дзяржаўнае паліцыі ў Жыровіцах, дзе **камандант паліцыі (Кендэрскі) і два паліцэйскія пачалі страшэнна катаваць яго**. Зьдзекі над бязьвінным і мучэньне пачаліся ў 12 гадз. ночы. Сам камандант паліцыі наваліўся на галаву арыштаванаму і коўдрамі заглушаў яго крыкі, а тым часам другія паліцэйскія **білі няшчаснага палкамі ў пяты аж да ўтраты ім прытомнасьці.**

30 красавіка г. г. камандант пастарунку гранічнае паліцыі ў вёсцы Мікалаеўшчыне, Сьверджанскае гміны, Стаўпецкага пав., сустрэўшы на вуліцы **14-летняга** Антона Белага, сына жыхара гэтае-ж вёскі Лукаша Белага, завёў яго на пастарунак, гдзе **зьбіў хлопчыка блізу да сьмерці**. Нет ведама, чым бы скончылася праступнае катаваньне дзіцяці, калі-б не тутэйшая начная варта, якая прыйшла на пастарунак у часе мучэньня дзіцяці. Пасьля гэтага выпадку Антон Белы ня мог сваімі сіламі вярнуцца да хаты і павінен быў пасьля ў працягу цэлага тыдня ляжаць у ложку.

28 марца г. г. дзяржаўная паліцыя з м. Кузьніцы, Сакольскага пав., прыбыла ў вёску Залесін, Залесінскае гміны, і сьпісала пратакол у справе здарыўшаеся ў папярэднюю ноч кражы збожжа. Западозрыўшы ў кражы нялетняга Балеслава Кедыша, Уладыслава Сэбаст'яновіча і Язэпа Ленкевіча, паліцыя загадала ім прыйсьці назаўтра ў 10 гадз. раніцы на пастарунак дзяржаўнае паліцыі ў Кузьніцы, каб нанова сьпісаць пратакол, бо ў вёсцы было за-шмат людзей. Калі заклікаьныя ў назначаны час прыйшлі на пастарунак, тут вось і распачалася, як заўсёды, „badanie“, — іх пачалі біць, катаваць, зьдзекавацца над імі, але аніяк не маглі з нявінных зрабіць вінаватых. Тады пачалі

кожнага **паіць праз нос вадой**, якой кожын быў прымушаны выпіць гэтак **па тры бутэлькі**. А як і гэтае не памагло, пачалі страшэнна мучыць іх, б'ючы да паўсьмерці. Пасьля гэтага злачынства арыштаваных звольнілі.

Яшчэ адно. 5 красавіка г. г. у Нясьвіжы, Наваградзкага ваяводзтва, сэнатарам Назарэўскім у прысутнасьці п. Чудзіновіча, тав. пракурора акружнога суда ў Наваградку, былі ўстаноўлены гэткія беззаконьні і гвалты дзяржаўнае паліцыі. У Нясьвіжы пад арыштам знаходзіцца п. Лашчук, з вёскі Макашы, які быў арыштаваны дзяржаўнай паліцыяй з пастарунку ў Гарадзеі з прычыны падазрэньня ў кражы мукі. Арыштаваны сцьвердзіў, што пасьля заарыштаваньня 27 марца яго перавезьлі ў Нясьвіж, дзе вывядоўца Нітка пачаў яго **страшэнна катаваць, прымушаючы прызнацца да віны.** Біў яго па галаве, па твару, пасьля яму зьвязалі рукі, залажыўшы пад калены, уткнулі між рук і ног палку, кінулі на зямлю і пачалі **біць палкай у пяты аж да бязпрытомнасьці.** Усё гэта рабілася ў прысутнасьці трох паліцэйскіх. Знакі катаваньня, а іменна, што галава і ногі былі спухшы, можна было ўстанавіць навет 5 красавіка г. г.

Другі арыштаваны, Станіслаў Дрозд (вёска Кутоўшчына, Цырынскае гміны, Нясьвіскага пав.), знаходзіцца ў хірургічнай бальніцы ў Нясьвіжы. Западозрыўшы ў кражы мукі, яго арыштавалі з 1 на 2 марца, але звольнілі пад залог 10 мільёнаў марак, бо ня было дастатачных падстаў трымаць яго ў вязьніцы. 24 марца г. г. Станіслава Дразда ізноў арыштавалі і перавязьлі ў Нясьвіж, дзе вывядоўца „Нітка" **страшэнна мучыў яго ў працягу ўсяе ночы**, ад 9 гадз. вечара аж да раніцы. Паліцэйскія № № 942 і 1802 і вывядоўца „Нітка" білі арыштаванага па галаве, па твару, па баках, вязалі яму рукі, закладалі пад калены, утыкалі палку міжы рук і ног, кідалі на зямлю і **білі палкамі ў пяты аж да паўсьмерці.** Калі катаваны ачухіваўся, яго **прымушалі ўзяць на сябе віну**. Ня маючы сілы далей цярпець мукі, арыштаваны сказаў, што прызнаецца да кражы. (*Голас на правіцы*: Гэта казкі!). Не, ня казкі, а праўда! У сувязі з гэтым вывядоўца „Нітка" 25 марца г. г. павёз арыштаванага Дразда ў вёску Краснагоркі, каб паказаў месца, дзе схаваны крадзеныя рэчы. Вярнуўшыся да хаты, Дрозд убачыў сваю хворую жану ў пасьцелі (другі дзень пасьля радзін); жонка блага сустрэла мужа за тое, што ўзяў на сябе вялікую ганьбу—кражу. Той, тлумачучы жане, што ня мог далей цярпець мукі, якія яму рабіла польская паліцыя, дайшоў да стану роспачы і, каб пацьвярдзіць чыстасьць свайго суменьня, **пачаў есьць тытун**, ды, схапіўшы сякеру, **адсек сабе тры пальцы на левай руцэ.** Па ўсіх гэтых муках, цярпеньнях і перажываньнях Станіслаў Дрозд быў памешчаны ў бальніцы ў Нясьвіжы.

Вось, панове, якая „казка"! Калі Панове кажаце, што гэта казка, дык гэтым самым **вы маральна адказываеце за гэтыя мучэньні!** Калі кажаце, што гэта казка, дык прашу паехаць у Нясьвіж і паглядзець адсечаныя пальцы!

Я прывёў вам некалькі фактаў, але маю іх цэлыя кучы, ды ня прыводжу ўсіх, бо час маей прамовы абмяжованы. Калі-ж пацярпеўшыя ішлі да вышэйшае ўлады, дык маем факты, што **катаваўшым народ і зьдзекаваўшымся над ім давалі вышэйшае становішча!**

Што-ж было рабіць гэнаму чалавеку, калі ня меў здаваленьня, калі няма законнасьці? — а я цьверджу, што законнасьці на Усходніх Крэсах няма.

Калі-б гэта сталася са мной, то, прашу, паверце, што я-бы гэтае здаваленьне знайшоў: **я-бы ўзяў рэвальвэр і пусьціў-бы кулю!** Калі хочаце, **каб народ сам сабе шукаў справядлівасьці, дык ён будзе шукаць яе сам і знойдзе яе!** (Воплескі на беларускіх і ўкраінскіх лавах).

Тут мы часта чуем аб бандытызьме. Так, бандытызм цьвіце, істнуе і будзе істнаваць, бо

**народ імсьціцца на паліцыі,**

—аж пакуль Панове ня прыйдзеце і не пераменіце гэнае кіраўнічае лініі паступаньня з 1920 году ў адносінах да тутэйшага народу, пакуль гэты народ ня будзе запраўды трахтаваны, як грамадзяне, а будзе трахтаваны, як грамадзяне трэцяга ці чацьвертага сорту. Нічога вам не паможа загад былага міністра Керніка аб павялічэньні паліцыі, не паможа пасыланьне коннае паліцыі і карацельных экспэдыцыяў. Цяпер

**народ больш баіцца паліцыі, чым бандытаў,**

бо бандыты забіраюць толькі маемасьць, але ня будуць катаваць, а паліцыя катуе і кідае на два, тры гады ў вязьніцу, дзе людзі сідзяць без суда, што можна сцьвердзіць. Істнуе толькі адзін рацыянальны способ на гэта: **каб п. міністар вывяў паліцыю да апошняга чалавека і ўтварыў кадры паліцыі з тутэйшых людзей**, якія будуць ведаць тутэйшыя адносіны. Тады хаця мінімум будзе дапяты. Бо да нас паслана паліцыя з Усходняе Галічыны, і 75% яе—**гэта падонкі грамадзянства**, ды яны тутака і робяць гэную інквізіцыю. Прашу Паноў, калі паліцыя будзе набрана з тутэйшых людзей, дык ня будзе гэных інквізіцыяў, і яна будзе выпаўняць свае службовыя абавязкі ня горш за гэных з Галічыны, што **прышлі на Усходнія Крэсы, каб нажыцца.**

У маей прамове я павінен адзначыць яшчэ адну рэч, а іменна тое, што міністры ўнутраных спраў зьмяняюцца што два-тры месяцы, за тое ў Міністэрстве Унутраных Спраў гэная спарахнеўшая аўстрыяцкая бюракратыя ўсё сядзіць; і, пакуль яна будзе сядзець, пакуль ня знойдзецца ў Польшчы міністар унутраных спраў, які-б прыйшоў і зялезнай мятлой вымеў усё гэтае, дый даў доступ чыстаму паветру,—датуль тамака ня будзе ладу. Так, у гэтым міністэрстве трэба завясьці лад. Ужо п. міністар Солтан казаў нам, што ня будзе цярпець усіх надужыцьцяў,—тымчасам дагэтуль ня бачым ніякае паправы.

Міністэрства пададо праект уставу аб самаўрадах. Гэта-ж **скандал**, каб сяньня **ў дэмакратычнай дзяржаве**, дзе Канстытуцыяй забясьпечана свабода, воля і роўнасьць,—**каб адзін паляк быў варты чатырох Беларусаў!** Гэта прост скандальныя рэчы, нязгодныя з канстытуцыяй Польскае Рэспублікі, таксама, як і ўся гэная спарахнеўшая аўстрыйская бюракратыя, якая адважылася падаць у Высокую Палату гэткі праект уставу аб самаўрадах!

Канчаючы маю прамову, адзначу, што мы хацелі-б бачыць на становішчы міністра ўнутраных спраў такога чалавека, які меў-бы сільную волю і адвагу і ўрэшце раз зрабіў-бы парадак, а тады ня было-бы падобных зьдзекаў.

**Ня маючы даверыя да Міністэрства Унутраных Спраў, мы будзем галасаваць проці бюджэту.**

# Інтэрпэляцыі Беларускага Пасольскага Клюбу.

## ІНТЕРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да п. міністра ўнутраных спраў у справе **разгону паліцыяй пасольскага справаздаўчага веча** ў м. Даўгінаве 8 мая 1924 г.

8 мая г. г. ў м. Даўгінаве, Вялейскага пав., пасламі кс. Ад. Станкевічам і Ант. Аўсянікам было зарганізавана справаздаўчае веча. З прычыны таго, што тутэйшае насяленьне зьявілася на сход у вялікай лічбе,—было больш за 2.000 ўчасьнікаў,—веча распачалася на рынковым пляцу. У часе прамовы другога з чароду пасла, кс. А. Станкевіча, зьявілася пешая і конная паліцыя і распачала наступленьне на вёўшы сябе зусім спакойна народ, стараючыся разагнаць веча. Паліцыя, аружная вінтоўкамі і голымі шаблямі, пачала атакаваць грамаду людзей, якая, разумеючы зусім добра незаконнасьць паступкаў паліцыі, вельмі слушна дала адпор гэным выхадкам паліцыі і прымусіла яе ўшанаваць права вячуючых і адступіцца ад імкненьня да разгону веча.

Пасьля, пры высьненьні гэткага паступку паліцыі, аказалася, што даўгінаўская паліцыя загад разьвязаць веча мела ад п. вялейскага старосты, п. староста—ад п. дэлегата ўраду ў Вільні, які, даючы адпаведны загад, быццам-то апіраўся на істнуючым цыркуляры міністэрства ўнутраных спраў, якім забараняюцца пасольскія вечы пад адкрытым небам.

Дзеля гэтага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў п. міністра: 1) ці запраўды міністэрства ўнутраных спраў выдала цыркуляр, забараняючы справаздаўчыя пасольскія вечы? 2) калі так, дык на якой падставе міністэрства выдала гэты цыркуляр?

Варшава, 5 чэрвеня 1924 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да п. п. міністраў справядлівасьці і ўнутраных спраў—у справе **біцьця і катаваньня бязьлетніх беларусаў**: **В**аладзімера Пракажына, Мікалая Шарапы, Яна Карачуна і Юстына Акуліка.

З дня 4 на 5 мая г. г. ў вёсцы Аношкі, Сноўскае гм., Нясьвіскага пав., былі забіты польскі вучыцель п. Кавальскі і солтыс Тамаш Хоміч.

Забойства здарылася пры гэткіх акалічнасьцях: 4 мая ў вёску Аношкі прыбыў вывядоўца павятовае паліцыі ў Нясьвіжы, Мельнік, і зажадаў у солтыса падводу. Дастаўшы яе, выбраўся ў дарогу; аднак, крыху счакаўшы, загадаў селяніну ехаць назад у вёску Аношкі, гдзе папрасіў у солтыса вызначыць яму квартэру, якую дастаў у народнай школе. З прычыны набліжэньня ночы,—была ўжо 8 гадз. вечара,—вывядоўца Мельнік пайшоў з солтысам у народную школу.

Назаўтрае раніцай да ведама жыхараў вёскі Аношкі дайшло аб забойстве ў народнай школе солтыса Тамаша Хоміча і вучыцеля Кавальскага.

У сувязі з гэтым пачаліся масавыя арышты мясцовае люднасьці. Арыштавалі колькідзесят асоб, якіх катавалі і пасьля звольнілі. Спаміж арыштаваных дагэтуль астаюцца ў вастрозе Валадзімер Пракажын — 16 гадоў, Мікалай Шарапа—19 гадоў, Ян Карачун — 24 гадоў і Юстын Акулік—20 гадоў, якіх перавезьлі ў двор Каменкі, пасадзілі ў склеп пад зямлёй, закавалі ў кайданы, абкруцілі іх цела мокрым шмацьцём і пачалі страшэнна катаваць, каб прымусіць іх пры-

# БЕЛАРУСЫ Ў ЛАТВІІ.

(Глядзі № 4 „Сын Беларуса").

IX.

### Беларусы і палякі.

З мамэнту заснаваньня Беларускага Аддзелу палякі вядуць самую непрымірымую з ім барацьбу.

Ненавісьць іх да беларусаў тлумачыцца тым, што нараджэньне беларускага нацыянальнага руху ў Латвіі разьбіла ўсе пляны і надзеі палякоў на хуткі зварот і далучэньне да Польшчы „Інфлянтаў Польскіх" (гэтак палякі да гэтага часу завуць Латгалію).

Яшчэ ў 1917 годзе ўтварылі палякі ў Латгаліі, па прыкладу Галіцыі, Віленшчыны і Пазнані, сваю тэрыторыяльную арганізацыю „Рада Польская ў Інфлянтах" і сталі рыхтавацца да далучэньня гэтае краіны да Польшчы.

Аб'ектыўныя варункі нібыта складаліся на карысьць палякам. — З паўмільённага жыхарства Латгаліі найвялікшую групу складаюць каталікі, якіх налічываецца больш за 300.000 чалавек; рэшта 200.000 душ падзелена паміж: стараверамі, праваслаўнымі, лютаранамі, рознымі сэктантамі і жыдамі.

Пераважаючая каталіцкая група мае ў сваім складзе: тысяч 40 праўдзівых палякоў, тысяч 40 беларусаў каталікоў, мала сьвядомых у сваей нацыянальнасьці і іншы раз склонных залічываць сябе таксама да палякоў, некалькі тысячаў літвіноў, таксама значна спольшчаных, ды тысяч 220—латгальцаў каталікоў.

Дзякуючы таму, што ў польскіх дварох усюды чутна была польская мова, якой карысталіся таксама і ў большасьці касьцёлаў,—польскія ўплывы ў Латгаліі былі дужа моцныя. Калі-ж прыняць пад увагу, што і самы лік палянізаванага жыхарства быў таксама дужа значны (40.000 палякоў, 40.000 беларусаў-каталікоў, ды яшчэ літвіны), дык выходзіла, што палякі маюць у Латгаліі ня толькі культурныя ўплывы, але і значную лічэбную моц.

У 1919 годзе жаданьні палякоў збыліся — Дзьвінск і частка Латгаліі былі заняты польскім войскам.

Невядома, як злажыліся-б далейшыя падзеі гісторыі і польскія адносіны да Латвіі, каб ня здарылася новае наступленьне бальшавіцкае коньніцы Будзеннага, якое прымусіла палякоў кінуць Латгалію.

Дзьвінск і ўся Латгалія аканчальна былі заняты Латвійскай арміяй.

Аднак палякі, адкінутыя бальшавіцкім войскам, не пакідалі лічыць Латгалію (Інфлянты Польскія) сваей краінай і рыхтаваліся да яе захвату.

У 1920 годзе, падпісываючы мір з Масквой, яны вытаргавалі сабе вузенькую палоску зямлі, якая праз усю Горадзеншчыну і Віленшчыну, быццам доўгая рука, цягнулася да Латгаліі і падтрымлівала зьвязок паміж ей і Польшчай.

У 1921 годзе гэты паясок, або—мост, палякам удалося значна пашырыць і ўмацаваць, далучыўшы да Польшчы Віленшчыну.

Далей быў чарод за шасьцьма латыскімі гмінамі Курляндыі, што аддзяляюць Віленшчыну ад ракі Дзьвіны і места Дзьвінску, а там прыйшоў-бы ўжо чарод і за Інфлянтамі Польскімі.

Але ў тым-жа 1921 годзе нарэшце прачнулася нацыянальная думка і ў беларускае меншасьці ў Латвіі.

Заварушыліся адначасна і беларусы-праваслаўныя, і беларусы каталікі. — Заснавалася культурна-прасьветнае т-ва „Бацькаўшчына" ў Латгаліі.

Прыпозьнены беларускі рух быў спаткаты іранічнымі жартамі, як з боку палякоў, так і расейцаў.

Але, калі т-ву „Бацькаўшчына" ўдалося дабіцца адчыненьня Беларускага Аддзелу, калі пачалі адчыняцца беларускія школы і вучыцельскія курсы, калі паявіўся беларускі тэатр, і калі, нарэшце, палякі ўбачылі, што 40.000 беларусаў-каталікоў ужо выходзяць спад іх уплываў і тым жорстка разьбіваюць рады тых лічэбных сілаў, на якія палякі разьлічалі крэпка абаперціся, — тады пачалося самае войстрае змаганьне з маладым беларускім рухам. — Усё было пушчана ў ход: і агітацыя рэлігійная, і даносы ўраду, і цкаваньне ў прэсе.

Але пачаўшыся народны рух спыніць цяжка, асабліва, калі права і праўда на баку гэтага руху.

Сьледам за беларусамі рушылі літвіны, якія зажадалі школы літоўскае, а ня польскае.

Паяўленьне ў Латгаліі беларускае нацыянальнае меншасьці было цяжкім ударам для польскіх уплываў і плянаў.

Пасьля таго, як беларусы больш-меньш здолелі наладзіць працу ў Люцынскім і Дзьвінскім паветах, яны павінны былі перанесьці яе ў Ілукштскі павет і самы горад Ішукшт, дзе беларускія сяляне яшчэ да гэтага часу неміласэрна апалячываюцца. Прыймаючы-ж пад увагу тое, што апошнія часы палякі адкрыта пачалі прэтэндаваць на Ілукштчыну, стане ясным, чаму іменна цяперака палякі са скуры лезуць, каб як небудзь спыніць беларускую працу і не дапусьціць далейшага яе пашырэньня, асабліва-ж на Ілукштчыну.

**Кастусёнак.**

(Канец будзе)

знацца да віны. Ня гледзячы на тое, што нявінныя стараліся давясьці, пазываючыся па сьведкаў, што Пракажын, Карачун і Акулік у часе, калі было ўчынена забойства, былі на вечарыне ў доме Анны Пракажын, а Шарапа езьдзіў у вёску Квачы па дровы, ды там і начаваў, паліцыя не схацела папытацца ў сьведкаў, а далей катавала, даводзячы арыштаваных да стану ўтраты прытомнасьці. Учыніўшы гэты праступак зьдзекаваньня, біцьця і катаваньня, бязьлетніх беларусаў пасадзілі ў вастрозе ў Нясьвіжы.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў п. п. міністраў: 1) ці маняцца яны ўрэшце прыступіць да выкараненьня ў Польшчы зьдзекаў, біцьця і катаваньня арыштаваных? 2) ці маняцца яны ўраз-жа аддаць пад суд агентаў паліцыі, якія катавалі бязьлетніх беларусаў? 3) ці маняцца прысьпешыць судовае сьледзтва ў справе западозраных у забойстве вучыцеля і солтыса?

Варшава, 3 чэрвеня 1924 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

паслоў з Беларускага Клюбу да п. міністра ўнутраных спраў — у справе біцьця паліцыяй Яна Міхальчыка і канфіскацыі дрэва на апал.

Дзяржаўная паліцыя на Беларускіх землях не перастае зьдзекавацца над беларускай люднасьцяй. Гэтаму перасьледаваньню падлягаюць навет сяляне, якія спакойна займаюцца работай на гаспадарчым полі.

Вось у месяцы сакавіку г. г. селянін Ян Міхальчык, селянін вёскі Залесьсе, Жыровіцкае гміны, Слонімскага пав., каб прыдбаць грошы на аплату падаткаў, вёз дровы на апал у м. Жыровіцы, купленыя перад тым у двары п. Ал. Мікульскага. Не даяжджаючы да Жыровіц, Міхальчыка затрымаў камандант мясцовага пастэрунку і, праверыўшы квіт, пусьціў селяніна ў мястэчка. У м. Жыровіцах, аднак, ня гледзячы на довад уласнасьці дроў, паліцыянт № 1551 загадаў Міхальчыку весьці дровы на пастэрунак і злажыць тамака. Праз некалькі дзён пацярпеўшы дастаў вызаў на пісьме, каб прыбыў на пастэрунак і забраў свае дровы. Аднак, замест выдаць дровы, Яна Міхальчыка завялі ў асобны пакой, дзе паліцыянт № 2487 зьбіў яго да паўсьмерці.

Дзеля вышэйшага ніжэйпадпісаныя пытаюцца ў пана міністра: 1) ці вядома яму вышэйшае? 2) ці маніцца ён пацягнуць да судовага адказу паліцыянтаў № № 1551 і 2487 за біцьцё селяніна Яна Міхальчыка і за бязпраўную канфіскацыю дроў? 3) ці маніцца нагародзіць маральныя і матэрыяльныя крыўды, учыненыя Я. Міхальчыку паліцыяй?

Варшава, 3 чэрвеня 1924 г.

## ІНТЭРПЭЛЯЦЫЯ

пасла кс. А. Станкевіча да п. Міністра Ўнутраных Спраў у справе незацьверджаньня Т-ва Ксяндзоў Беларусаў „Сьветач“.

Закладчыкі Т-ва Каталіцкіх Ксяндзоў Беларусаў „Сьветач“ 23.IV.23 г. падалі Камісару Ураду на м. Вільню просьбу, каб зацьвердзіць статут Т-ва.

Ня гледзячы на тое, што ўсе фармальнасьці былі споўнены, пасьля паўгоду праз Камісара Ураду на м. Вільню надышоў адказ такога зьместу:

„З даручэньня Делегата Ураду ў Вільні гэтым паведамляю, што Міністэрства Ўнутраных Спраў адмовілася зацьвердзіць Т-ва Ксяндзоў Беларусаў „Сьветач“.

Ад гэтай пастановы не даецца права зьвярнуцца да вышэйшай улады адміністрацыйнай...

**(—) К. Вімбор, Камісар Ураду.**

Паклікаючыся на арт. 108 Канстытуцыі Польскай Рэспублікі, а такжа на адпаведныя артыкулы Вэрсальскага Трактату, ніжэйпадпісаныя пытаюцца п. Міністра:

1) Ці п. міністар мае намер падаць падрабязныя выясьненьні, на якой аснове не зацьверджаны Статут Т-ва „Сьветач“.

2) Ці гатоў узяць назад сваю пастанову і зацьвердзіць Статут Т-ва Ксяндзоў Беларусаў „Сьветач“.

Варшава, 23.V.24 г.

## Як п. міністар унутраных спрау адказывае на інтрэпэляцыі паслоу.

На апошнія інтэрпэляцыі пэпээсаўца Пужака ў справе гвалтаў паліцыі пры спагоне падаткаў у павеце Чэнстахоўскім (што ўжо казаць пра нашыя „Крэсы“!) п. мін. Гюбнэр даў гэткія адказы:

Інтэрпэляцыя кажа, што войт з паліцыянтам улезьлі да хаты праз вакно. П. міністар кажа, што гэта—няпраўда, бо яны толькі... „праз адчыненае вакно забралі з ложка, што стаяла каля вакна, падушку“...

„Забралі“ праз вакно з зачыненай хаты — гэта значыць, на мове Кодэксу Карнага ўсіх часоў і народаў, папросту *ўкралі*. І гэтую юрыдычную мову павінен ведаць польскі міністар, які датаго быў пракурорам і пэўне многа разоў дамагаўся за гэткае „забраньне“ суровых караў... А ці-ж кража перастае быць праступкам, калі яе ўчыняе п. войт у прысутнасьці узброенага паліцыянта?...

У другім выпадку маемасьць жыхара вёскі была, як кажа інтэрпэляцыя, зрабавана ў хаце ў адсутнасьці ўласьніка.— „Няпраўда“, — адказывае пан міністар Польскай Рэспублікі: „у хаце былі двое дзяцей: адно—13 гадоў, другое—3“...

Пэўна-ж гэтае апошняе і падпісала пратакол аб канфіскацыі...

Але яшчэ цікавей пан міністар тлумачыць тыя нязьлічаныя выпадкі пабіцьця паліцыяй жыхараў пры „адбіраньні“ маемасьці... У часе эгзэкуцыяў „пачыналася шамотаньне з паліцыянтамі, у часе чаго ня выключана, што той ці іншы жыхар мог сам пабіцца аб карабін паліцыянта“...

І вось цяпер можна быць ужо зусім пэўным, што нідзе, ніколі і ніякага біцьця паліцыяй народу ў Польшчы ня будзе! Скончана! І ўсялякія Лігі у Францыі і ў Жаневе могуць ня траціць дарма пораху... Цяпер, з лёгкае рукі самага пана міністра, кожны паліцыянт будзе ў пратаколе зусім адкрыта сьцьвярджаць, як моцна і крывава у часе „шамотаньня“ „ўдарыўся аб яго карабін“ той ці іншы нялоўкі селянін...

І гэткаму міністру даручаецца кіраваньне „ўнутранымі справамі“ у Рэспубліцы, ад гэткага пана чакаюць абароны „бясьпечнасьці“ насяленьня, ад гэткага пана нехта спадзяецца — „паправы“ стасункаў на Крэсах, „рэарганізацыі паліцыі і адміністрацыі“ і іншых добрых рэчаў!

# Палітычныя падзеі.

### Кракаўскі працэс.

Амаль ня 3 тыдні цягнецца працэс аб лістападавай работніцкай рэвалюцыі ў Кракаве і крывавым яе „усьмірэньні“, а канца яшчэ ня відаць.

### Урэзываньне заработкаў.

На Горным Сьлёнску фабрыканты ўрэзалі капальняным работнікам на 11 проц. плату за работу, а ў зялезных гутах—на 17 проц. Работнікі прымушаны былі прыстаць на гэта, бо фабрыканты пагражалі, што інакш пазачыняюць свае фабрыкі і павыкідаюць усіх работнікаў на брук.

### Крывавы захват праваслаўнае царквы.

У вёсцы Кубрадовічах, Грубешоўскага ваяводзтва, пры забіраньні праваслаўнае царквы на каталіцкі касьцёл узьнялася баталія паміж праваслаўнымі і каталікамі. Цяжка пабіты каля 50 асоб, ранены паважна—10.

Вось, вынікі „апалітычнага“ ўрадаваньня габінэту п. Грабскага! Людзі адны адным кроў пускаюць, затое ўладзе спакайней....

### Эміграцыя жыдоў з Польшчы.

25-га мая г. г. пакінула межы „гасьціннае“ Польшчы вялікшая партыя жыдоў, якія выэмігравалі ў Палестыну.

Выяжджаюць выключна больш заможныя жыды, якія з прычыны эканамічнага крызісу ў Польшчы і страшэнных падатковых цяжараў зьліквідавалі свае прамысловыя і гандлёвыя прадпрыемствы і выручаныя капіталы вывозяць з Польшчы.

### Пан Замойскі застаецца “на пасту“...

Ня гледзячы на забойчую крытыку і агульны вывад, што п. Замойскі, як міністар замежных спраў, зусім няздольны да адказнай працы на гэтым важным становішчы, п. Замойскі заявіў у камісіі Сойму, што ён „не пакіне становішча ў такую цяжкую для айчызны гадзіну“...

Але, відаць, пакінуць усё-ж прыдзецца, бо апошняе афіцыяльнае апраўвяржэньне кажа ўжо, што весткі, быццам п. Замойскі ўжо падаўся ў адстаўку і атрымаў яе, зьяўляецца „нясьціслымі“...

### Закон аб урадовай мове.

„Роботнік“ падае, быццам мін. унутр. спраў апрацавала праект аб праве карыстацца няпольскай мовай у адносінах да ўрадовых установаў. Гэты праект прадбачыць правы украінскай, беларускай, расейскай і літоўскаў мовы на „ўсходніх абшарах Польшчы“ і быццам у хуткім часе будзе ўнесены ў Сойм...

Можа ў Сойм і будзе ўнесены, асабліва, калі ўрад атрымае поўную гарантыю, што яго „народовай большасьцю“ праект будзе адкінуты. Цікава ў гэтых пералічаных мовах меншасьцяў адсутнасьць нямецкай і жыдоўскай...

### Да паразуменьня Францыі з С.С.Р.Р.

Як падае парыжская газэта „Матэн“, Эрыо прыгатаўляецца да аднаўленьня зносінаў з С.С.Р.Р., зьбіраючы нарады з коламі, заінтарасованымі ў расейскіх справах. Эрыо, відаць, мае зрабіць тое самае, што зрабіў Мак-Дональд: скліча расейска-французкую ўрадовую канфэрэнцыю і дазволіць французскім царскім ліхвярам—фінансістам дыктаваць праз яе радавым рэспублікам свае варункі.

Англійскія газэты пішуць, што ўрад Мак-Дональда мае два праекты „разьвязаньня расейскага пытаньня“... 1. Скліканьне Канфэрэнцыі Трох, г. зн. Англіі, Францыі і Расеі,—ці 2, папярэдняе паразуменьне саюзных дзяржаваў паміж сабой, а пасьля — скліканьне расейска-міжсаюзнай канфэрэнцыі...

### Перанясеньне III Інтэрнацыяналу ў Парыж.

„Руспрэс“ падае, быццам Масква жадае як най-

каб перанясьці ў Парыж Выканаўчы Камітэт Камуністычнага Інтэрнацыяналу. Прадстаўніком С.С.Р.Р. у Францыі мае быць Крэсьцінскі, што цяпер паслому Бэрліне.

### „Міралюбства“ Румыніі.

У адказ на інтэрпэляцыі, румынскі прэм'ер заявіў у парляманце, што Румынія горача жадае міру і аднаўленьня нармальных адносінаў з С.С.Р.Р., дамагаючыся ад апошняга „толькі прызнаньня бязпрэчных правоў Румыніі на Бэсарабію“... Як ведама, С.С.Р.Р. зусім зрокся „гістарычных правоў Расеі“ на Бэсарабію, ала зрокся зусім не на карысьць нямаючай ніякіх правоў на гэты край Румыніі, але на карысьць бязспрэчных правоў насяленьня Бэсарабіі і вялікага прынцыпу самавызначэньня народаў. Дзеля таго ССРР, стаўляе няўхільнае дамаганьне свабоднага плебісцыту ў Бэсарабіі і ад гэтага дамаганьня не адступіцца, як можна думаць з заявы кіраўніка палітыкі С.С.Р.Р.

### Нямеччына ў Лізе Народаў.

Мак-Дональд у адказ на інтэрпэляцыі падаў цікавыя інфармацыі ў справе ўваходу Нямеччыны ў Лігу Народаў.

Як ведама, абодва ўрады—англійскі і новы французкі—стаўляюць справу прыняцьця Нямеччыны да Лігі адным з галоўных пунктаў сваіх замежна-палітычных праграмаў,—як доказ асаблівай прыхільнасьці і ўступлівасьці адносна да Нямеччыны.

Але Нямеччына неяк не сьпяшаецца скарыстаць з дабрадзействаў Лігі. Нямеччына зусім не падала і, як відаць, ня зьбіраецца падаваць „прашэньне“ аб прыняцьці ў Лігу...

Кожнаму ясна, што ўваход Нямеччыны ў Лігу роўны поўнай згодзе яе на ўсе „дабрадзействы“ адначасна і Вэрсальскага Трактату...

У справе разаружаньня Нямеччыны англійскі прэм'ер заявіў, што саюзьнікі гэтую справу разважаць вельмі скора...

З гэтага ясна, каму выгадней, каб Немцы ўвайшлі ў Лігу...

### Англія, Літва і Клайпэда.

Як падае ПАТ, Мак-Дональд заявіў у парляманце, што прадстаўнікі Літвы ня будуць у Англіі карыстацца дыпляматычнымі прывілеямі, пакуль літоўскі ўрад не ратыфікуе Клайпэдзкай Канвэнцыі.

### Новы старшыня французскага Сэнату.

На месца выбранага за Прэзыдэнта Рэспублікі Думэрга старшынёй французскага Сэнату выбраны дэ-Сэльв. Выбар дэ-Сэльва ў пэўным сэнсе абмяжоўвае перамогу лявіцы. Можна думаць, што Сэнат пад кіраўніцтвам новага старшыні паставіць значна вузейшыя межы праектаванай Эрыо палітычнай амністыі, выключыўшы з яе засуджаных „за здраду дзяржавы“: вядомага немцафіла Кайо і іншых. Якраз дэ-Сельв калісь, у часе вайны, разам з Клемансо і Пуанкарэ дабіўся раскрыцьця ўсей „здрады“...

### Разрыў дыпляматычных зносінаў паміж Англіяй і Мэксыкай.

У зьвязку з ведамым нашым чытачом англійска-мэксыканскім канфліктам, Вялікабрытанія разарвала дыпляматычныя зносіны з Мэксыкай і адазвала свайго пасла Бумінга, даручыўшы Амэрыцы абарону сваіх спраў і грамадзян у Мэксыцы.

### Новы габінэт у Японіі.

Пасьля доўгага крызісу нарэшце злажыўся ў Японіі новы ўрад. Дагэтуль у Японіі амаль ня выключна панавалі абшарнікі-кансэрватысты, якія ў паразуменьні з знамянітым Генро (ўсемагутная асабістая рада Мікады) трымалі народ у зялезных руках паліцэйскім тэрорам.

Вялікае трасеньне зямлі і апошнія выбары зрабілі страшэнны ўдар гэтай адвечнай дыктатуры. Цяпер да ўлады дайшлі не абшарнікі, але прамыслоўцы.—лібэралы-канстытуцыяналісты, якія перамаглі на апошніх выбарах, атрымаўшы каля 150 мандатаў (з агульнага ліку 460).

Лідэр гэтай партыі, віцэ-граф Като, атрымаў ад Мікада даручэньне стварыць урад. Ня маючы абсалютнай большасьці ў парляманце, ён зрабіў кааліцыю з трох буржуазных опозыцыйных партыяў, захаваўшы для сваей групкі рашучую перавагу ў габінэце.

Як бачым, аб учасьці народу ў уладзе яшчэ няма мовы, і гэта—дзеля таго, што Японія яшчэ ня мае агульнага выбарнага права. Прадстаўнікоў працоўных масаў зусім няма ў японскім парляманце. Але з гэтым лёзунгам агульнага выбарнага права выступіла ў часе выбараў партыя лібэралаў, і ён якраз і даў ей перамогу.

Дык вось, галоўным пунктам праграмы новага ўраду і зьяўляецца выработка новага выбарнага закону. Урад п. Като мае ў парляманце большасьць 280 галасоў, ня лічучы безпартыйных, якія таксама абяцаліся падтрымаць лібэральныя рэформы ўраду. Замежныя справы даручаны быўшаму паслу ў Амэрыцы, і з гэтага відаць, што канфлікт з Амэрыкай будзе зьліквідаваны мірна.

Як мы калісьці прарочылі, зямлітрасеньне аказалася не бяз карысьці для Японіі...

